SOS!

# Магільшчыкі

## Пра тое, што вядома нават аднаклетачнаму ёлупню

У моўных пытаннях няма ніякіх праблем... Аляксандр Лукашэнка, наведваючы Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, заявіў:

*— Навошта лезці ў гэтыя пытанні, калі яны даўно вырашаны або спакойна вырашаюцца самі па сабе. Хоча Косінец (“губернатар” Віцебскай вобласці. — **Аўт.**) вывучаць на беларускай мове гісторыю сярэдніх вякоў — хай вывучае. Хоча Радзькоў (першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. — **Аўт.**) вывучаць на рускай мове — хай вывучае.*

Падвёўшы рысу, “усенароднаабраны” зыркнуў на сваіх падначаленых. Тыя, канечне, у поўнай згодзе, бо як можна стаць упоперак свайму босу: калі б параіў вывучаць беларускае сярэднявечча на кітайскай мове, то кінуліся б і на кітайскай...

Смех смехам, але сцэнка з двума Аляксандрамі і дзвюма мовамі была разыграна як па нотах. Галоўны рэжысёр быццам і не цісную на акцёраў (у нас, маўляў, свабода выбару, і я тут нічога і нікому не навязваю), але публіка павінна ведаць: ніякіх новых мізансцэн у “дзвюхмоўным спектаклі” не будзе!..

Словы Лукашэнкі пра “свабоду” выбару, я лічу, варта чытаць з дакладнасцю да наадварот — як канчатковую забарону на пераход да выкладання ў школах гісторыі і геаграфіі на роднай мове. Якраз полацкі маналог “лідара нацыі” даў зразумець, хто ў сапраўднасці стаяў за нечаканай адмовай міністра адукацыі Сяргея Маскевіча ад сваёй жа спробы вярнуць беларускую мову ў школы...

**Для даведкі:** ***праблема ўзнікла, калі ГА “Таварыства беларускай мовы” звярнулася ў Мінадукацыі з тым, каб геаграфія і гісторыя Беларусі выкладаліся ў школах па-беларуску — незалежна ад асноўнай мовы выкладання. Адтуль паведамілі пра планы выдання беларускамоўных падручнікаў. Але тут намеснік міністра Казімір Фарыно асадзіў: у 2012 годзе гэтага рабіць не збіраюцца. Такая, значыцца, атрымалася закавыка-нестыковачка… І тут на авансцэну падымаецца гарант Канстытуцыі: “няма ніякай праблемы…”, у Беларусі “кожны свабодна выбірае…” і ўсё такое. Ну хоць у вуха кладзі: і я не я, і хата не мая…***

Між тым прынцыповая пазіцыя ТБМ застаецца нязменнай: арганізацыя па-ранейшаму стаіць на тым, каб гісторыя Беларусі выкладалася па-беларуску. Тут, як і паўсюль у стане дэмакратычнай грамадскасці, лічаць: навучанне на беларускай мове ў краіне рэалізаваць нашмат складаней, чым на рускай; правы беларускамоўнага грамадзяніна забяспечваюцца нашмат горш, чым рускамоўнага. Фарыноўская заява пра тое, што мову навучання выбірацьмуць бацькі, — дэмакратычная толькі па форме, па сутнасці ж і на практыцы — вядзе да маргіналізацыі мовы тытульнай нацыі. Гэта вядома нават аднаклетачнаму ёлупню, не кажучы пра розных міністраў і губернатараў. Аднак жа робяць выгляд, што ўсё ў межах Канстытуцыі, што выконваюць волю народа, што цвёрда трымаюцца вынікаў моўнага рэферэндуму... Можна зразумець галоўнага магільшчыка мовы, таго, хто забіў апошні цвік у моўную рэформу Маскевіча і ўвогуле ў беларускасць, — яму губляць няма чаго, бо адказны за ўсё разам, уключна з рэферэндумам, які іначай як шулерскім не назавеш. Тут адступаць няма куды, бо грахоў столькі, што адным менш, адным больш — ніякай розніцы для канчатковага прысуду гісторыі... Цяжка зразумець тых, хто ступіў на крывую сцяжыну і пры тым лічаць сябе дзяржаўнымі мужамі, адданымі народу і Айчыне. Няўжо не разумеюць, што вінцікі ў іржавым механізме ржавеюць таксама, значыцца, рана ці позна апынуцца на сметніку?.. Гэта відавочна настолькі, наколькі відавочна, што ўслед за ноччу абавязкова прыйдзе ранак...

Але вернемся да пытання, якое “*даўно вырашана або спакойна вырашаецца само па сабе*”.

На сённяшні дзень гісторыю сваёй краіны на роднай мове вывучаюць толькі 20—25 працэнтаў вясковых дзяцей; гарадскіх і таго меней — усяго 5 працэнтаў. З геаграфіяй — тая ж гісторыя... І гэта пры тым, што вёска — апошні бастыён беларускасці ў краіне. Далей адступаць няма куды, хіба што кінуцца ў жалезныя рускамоўныя абдымкі і забыцца, хто ты, адкуль і чаго варты ў гэтым свеце. Але што казаць, вагончык крануўся ўслед за цягніком, то бок моўным рэферэндумам: зараз (даныя за мінулы год) падчас так званага цэнтралізаванага тэсціравання рускую мову пажадалі здаваць без малога 100 тысяч абітурыентаў, а на беларускую мову зарэгістравалася напалову менш — 53 тысячы. Па астатніх дысцыплінах — у сэнсе іспытаў па-беларуску — карціна зусім катастрафічная: па геаграфіі — 5,2%, матэматыцы — 6,2%, фізіцы — 5,6%, біялогіі — 7,2%, сусветнай гісторыі — каля 8,7%, грамадазнаўстве — 2,5%. Прыехалі, ці — амаль прыехалі...

Цяпер яшчэ пра адзін, так бы мовіць, трэнд: куды коціцца (зноў-такі спакойна і сама па сабе) беларуская школьная адукацыя?.. За апошнія пяць гадоў у Беларусі зачынены дзверы 460 школ — на векі вечныя... Сёлета замкі будуць навешаны яшчэ на 114 школах. Саміх навучэнцаў паменела на 228 тысяч. Мінадукацыі працягвае палітыку ліквідацыі ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі, найперш вясковых, дзе вучняў не хапае, а настаўнікаў можна без праблем звольніць. Пры гэтым у большасці школак выкладанне, у адрозненне ад гарадскіх, вядзецца па-беларуску. Але каму патрэбна тое беларускае? Пытанне рытарычнае, не вартае ўвагі: у нас за ўсё і за ўсіх адказвае “лідар нацыі”. Вось толькі адна замінка: знікне мова, то знікне і нацыя. Перад кім тады трымаць адказ? Правільна, перад Госпадам... Але і тут нявыкрутка, бо зямны Бог у беларусаў ужо ёсцека, а сапраўдны недзе далёка-далёка...

**Георгій ЧЫГІР.**

БЕЛАРУСЬ—РАСІЯ



## Аляксандр СУРЫКАЎ, пасол РФ у Беларусі:

# «Калі ласка, заплаціце пошліну»

Расійскі бок звярнуў увагу на тое, што імпарт расійскіх нафтапрадуктаў Беларуссю апошнімі гадамі значна ўзрос, у тым ліку ў 2012 годзе — у чатыры разы. Пра гэта заявіў на прэс-канферэнцыі пасол Расіі ў Беларусі Аляксандр Сурыкаў.

Адказваючы на пытанне БелаПАН, ці мае намер Расія рэагаваць на інфармацыю пра тое, што Беларусь займаецца рээкспартам расійскіх нафтапрадуктаў пад выглядам разбавіцеляў і растваральнікаў з мэтай пазбегнуць выплаты экспартнай пошліны ў расійскі бюджэт, Сурыкаў сказаў: *“Мы разумеем, што Беларусь імпартуе больш, чым трэба для ўнутранага спажывання. Заўважылі, што ў справаздачнасці Мытнага саюза з’явіліся растваральнікі і разбавіцелі, якія не абкладаюцца пошлінамі. Летась іх было два мільёны тон”.*

Сурыкаў заявіў, што гэтым пытаннем займаюцца адпаведныя эканамічныя структуры ў РФ. *“Хутчэй за ўсё, яно будзе абмяркоўвацца з беларускім бокам, каб не было парушэнняў з рээкспартам. Рээкспартаваць можна, але, калі ласка, заплаціце пошліну”,* — падкрэсліў пасол.

Нагадаем, у адпаведнасці з дзейнымі пагадненнямі Беларусь у абмен на бяспошлінную нафту і нафтапрадукты абавязана пералічваць у расійскі бюджэт пошліны ад экспарту нафтапрадуктаў за межы Мытнага саюза. Летась Расіі ў выглядзе нафтавых пошлін было пералічана больш за 3 млрд долараў.

Аднак пры экспарце разбавіцеляў і растваральнікаў уся выручка застаецца ў Беларусі, пошліны ў бюджэт РФ беларускі бок не плаціць.

Паводле ацэнкі эксперта расійскага інстытута “Энергетика и финансы” Сяргея Агібалава, летась з-за рээкспарту Беларуссю расійскіх нафтапрадуктаў пад выглядам разбавіцеляў і растваральнікаў Расія недалічылася як мінімум 700 млн долараў. *“Сёлета страты расійскага бюджэту ад нявыплаты пошлін могуць узрасці да 2 млрд долараў, гэта ўжо немаленькая сума для Расіі”,* — прагназаваў Агібалаў у нядаўнім інтэрв’ю БелаПАН.

## «Гэта ідэя цяпер абмяркоўваецца»

Закрануў на прэс-канферэнцыі Аляксандр Сурыкаў і пытанне аб утылізацыйным зборы на аўто, які ўжо з 1 жніўня можа быць уведзены ў краінах Мытнага саюза.

Канчатковыя памеры ўтылізацыйнага збору на аўтамабілі пакуль не вызначаны. *“Гэта ідэя цяпер абмяркоўваецца ў Еўразійскай эканамічнай камісіі кіраўніцтвам трох краін, якія ўваходзяць у Мытны саюз. Так, там ёсць пытанні”,* — адзначыў Аляксандр Сурыкаў.

Як вядома, памер так званага ўтылізацыйнага экалагічнага збору з 1 жніўня прапаноўваўся наступны: на іншамаркі, якія ўвозяцца з-за мяжы, ад 795 долараў да 19.600 долараў — у залежнасці ад узросту машыны і аб’ёму рухавіка. Усе сродкі ад эказбору пойдуць у казну дзяржавы, якая нібыта займецца ўтылізацыяй старых аўто.

ЧУЛІ?

## Старшыня Нацбанка зарабляе прыкладна тысячу долараў

Падчас “Прамой лініі” старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Надзея Ермакова расказала, якія заробкі атрымліваюць служачыя Нацбанка.

*“Чыстымі, пасля выплаты ўсіх падаткаў, мой заробак складае прыкладна 1000 долараў у месяц,* — адзначыла Надзея Ермакова. — *Але ж у мяне і пасада, і адказнасць*”.

Сярэдні заробак па Нацыянальным банку не дацягвае да сярэдняга па Мінску. *“Пакуль не дацягвае да 500 долараў”,* — сказала Ермакова.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Валянціна АЛІНЕВІЧ:

# «Мой сын у турме, але ён самы лепшы...»

Маці палітвязня Ігара Аліневіча мела так званае доўгатэрміновае спатканне з сынам у Наваполацкай калоніі. Нягледзячы на тое што спатканне называецца доўгатэрміновым, доўжылася яно літаральна суткі і было ўсяго другім па ліку за час зняволення Ігара. Першае дазволілі летась, 19 лістапада. Прычым паведамленне аб тым, што будзе спатканне, Валянціна Аліневіч атрымала літаральна за дзень да яго. Высветлілася, што з Наваполацка да Мінска ліст ішоў ажно 18 дзён. Валянціна кажа:

*— Але добра, што я тады паспела. Чаму толькі суткі? Ну, на такія пытанні ніхто не адказвае.*

***— Зразумела, што галоўнае — гэта нагаварыцца з сынам. Але цікава, што вы яму прывезлі?***

*— Прывезла яму марожанае. Ён не еў яго два гады. Натуральна, да лядоўні ён яго не данёс. З’еў адразу. Там ёсць кухня, можна нешта гатаваць... Але гэта не галоўнае.*

28-гадовы Ігар Аліневіч пасля заканчэння радыётэхнічнага ўніверсітэта па спецыяльнасці “камп’ютарнае праектаванне” меў перспектыўную працу. Быў адным з тых, хто працаваў над распрацоўкай беларуска-расійскага спадарожніка. А потым трапіў за краты як лідар так званых анархістаў. Дарэчы, усіх хлопцаў, якія праходзілі па гэтай справе, на працы характарызуюць як лепшых супрацоўнікаў. Адно з галоўных абвінавачанняў супраць Ігара Аліневіча — падпал аўтамабіля расійскай амбасады 30 жніўня ў 2010 годзе. Валянціна Аліневіч і сёння прыгадвае той суд.

*— Як гэта было ўсё абстаўлена — перакрылі Партызанскі праспект, Ігара везлі аднаго ў аўтазаку, як нейкага самага небяспечнага злачынцу, па перыметры спецназаўцы... А на судзе паказалі відэа падзей каля расійскай амбасады. На ім было бачна, што ў машыну нешта кінулі двое “амбалістых” мужчын гадоў пад 40. А Ігар худы, абсалютна не падобны. І тым не менш... Такі ў нас суд. Яго абвінавацілі па паказаннях Максіма Веткіна, з якім мой сын быў знаёмы. Ігара арыштавалі, а самога Веткіна пасля суда адпусцілі, бо ён “актыўна супрацоўнічаў са следствам”. Калі пракурор у яго спытаў: “Чаму вы ўвесь час называеце розныя прозвішчы?”, той нават расплакаўся і сказаў: “Я ўвогуле не ведаю, што тады вам ад мяне трэба”. І гэта ўсё адбывалася на вачах поўнай залы. Вось такі суд...*

Па сутнасці, Валянціну Аліневіч пазбавілі магчымасці бачыць абодвух сваіх дзяцей. Дачка Валянціны жыве ў Швейцарыі. Пасля арышту брата яна не магла прыехаць на радзіму, каб быць разам з бацькамі, бо была папярэджана, што яе саму затрымаюць на мяжы.

*— У нас жа тады шукалі “швейцарскі след”. Міліцыя ў нейкай сметніцы каля расійскага пасольства знайшла нейкі пакет, чамусьці вырашылі, што ён са швейцарскай крамы, і пачалі там нешта мудрыць... На судзе нават быў прадстаўнік швейцарскай амбасады. Мой зяць — швейцарац. Ён проста не можа паверыць, што такое можа адбывацца ў Еўропе. У маім жа асяродку па-рознаму тады ўспрынялі сітуацыю. Гэта своеасаблівае выпрабаванне. Мае старыя сябры ўсё зразумелі і цалкам мяне падтрымалі. Ведаеце, важна, як ты пражыў ранейшае жыццё. Мае сябры аказаліся сапраўднымі сябрамі. А вось сярод знаёмцаў былі і такія, якія некуды зніклі. Не скажу, што гэта мяне неяк пакрыўдзіла. Я тады падумала: “Божа, пры чым тут тое, як і хто да гэтага ставіцца?! Галоўнае, што мой сын у турме і што ён самы лепшы. Вось у чым мая місія”. Адразу адпалі ўсе сумневы, страх і з’явіліся сілы. Я ў Паўла Сербскага прачытала, што мы не выбіраем, у якой краіне нарадзіцца, мы не выбіраем свайго прэзідэнта ці свайго караля (а мы дык тым больш не выбіраем), але мы выбіраем быць чалавекам ці не быць чалавекам. Ігар зрабіў свой выбар.*

**— Як яму ўдаецца выжываць у экстрэмальных для яго ўмовах?**

— Ігар інтраверт і аскет. На бытавыя ўмовы ён скардзіцца не стане, а што да іншага, дык маме таксама не скажа. Ён ніколі мне не пакажа, што яму баліць. Аб тым, што яго збівалі ў ізалятары КДБ, я даведалася ад тых, хто быў разам з ім. Калі ж спытала, чаму ён нічога не сказаў, адказаў: “А што б ты змяніла? Толькі б перажывала”. Так што пра праблемы ён мне не скажа. Спытала: “Як кормяць?”, адказаў: “Нармальна”. Я ж бачу і ведаю, што на яго ціснуць. А ён толькі паўтарае: “Мама, не хвалюйся. Усё нармальна...”

Вось ён такі. Сапраўдны мужык. Нават не ведаю, як яму ўдалося стаць такім у цяперашні час, калі столькі інфантылізму вакол. Цяпер далёка не кожны можа так трымацца. Дарэчы, яго прадзед таксама быў рэпрэсаваны ў 1937 годзе. А потым быў рэабілітаваны...

**— Ігар выхоўваўся ў інтэлігентнай сям’і. Натуральна, што апроч чытання кніжак былі іншыя захапленні…**

— Ён вельмі любіў сабак. Увесь час назіраў за імі і ўсё пра іх распавядаў. Любіў з імі гуляць. Калі стаў падлеткам, то вельмі цікавіўся гісторыяй. Удзельнічаў у розных тэатралізаваных рэканструкцыях. У Расію ездзіў, па Беларусі. Яго сябры кажуць, што ён быў душой і без яго ўсё цяпер не так. Кажуць мне: “Калі такога чалавека, як Ігар, пераследуюць з такой жорсткасцю, то з кім тут тады заставацца?” Мой сын — чалавек альбо з будучыні, альбо з мінулага. Жыве не для сябе. Дарэчы, калі па БТ паказвалі фільм пра гэтую справу, то не пасаромеліся ўзяць кавалак роліка з гістарычнай рэканструкцыі і сказалі, што гэта нібыта яны так збіраюцца на патаемныя бандыцкія сходы. Ды што пра гэта казаць...

Падчас апошняга спаткання ён прасіў мяне перадаць усім удзячнасць за падтрымку. Для яго гэта вельмі важна. Я гэта разумею.



### Да ведама

**Ігар Аліневіч нарадзіўся 24 верасня 1984 года. Скончыў Універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. Падчас вучобы зрабіў перапынак на год, каб папрацаваць на круізным лайнеры ў Карыбскім моры. Пабачыў іншыя краіны і ўдасканаліў веданне замежных моў. Вывучаў працы заснавальнікаў анархісцкага руху: Бакуніна, Крапоткіна, Махно.**

**28 лістапада 2010 года невядомыя ў цывільным схапілі Ігара Аліневіча ў Маскве і адтуль перавезлі яго ў следчы ізалятар КДБ у Мінск. 27 мая 2011 года суд Заводскага раёна Мінска пакараў Ігара пазбаўленнем волі на 8 гадоў. Яго абвінавацілі ў парушэнні часткі 2 артыкула 339 КК РБ (хуліганства, здзейсненае групай асоб) і частак 2 і 3 артыкула 218 КК (пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам і ў асабліва буйным памеры).**

**Спачатку было абвінавачанне ў злосным хуліганстве па эпізодах нападу на расійскае пасольства ў ноч з 30 на 31 жніўня 2010 года, а таксама за ўдзел у акцыі каля Генштаба Узброеных сіл Беларусі 19 верасня 2009 года. Потым абвінавачанне пашырылі: акрамя эпізоду па Генштабе, Аліневічу інкрымінавалі напады на казіно “Шангры Ла”, на офіс банка “Масква—Мінск” 31 мая 2010 года, на расійскую амбасаду 30 жніўня 2010 года і на ЦІП 6 верасня 2010 года. Гэтыя дзеянні кваліфікавалі як хуліганства і наўмыснае знішчэнне або пашкоджанне маёмасці.**

**Назіральнікі адзначылі грубыя парушэнні заканадаўства падчас затрымання і судовага працэсу, сярод якіх парушэнне працэдуры экстрадыцыі, непрадастаўленне адваката, ужыванне псіхалагічнага і фізічнага ціску пад вартай, невыкананне прынцыпу роўнасці бакоў на судзе.**

**Кажуць, у СІЗА КДБ Ігару Аліневічу тройчы прапаноўвалі працаваць на ўлады ў якасці хакера. Ён катэгарычна адмовіўся. Ігар прызнаны палітвязнем. Краіны Еўрасаюза і ЗША патрабуюць яго вызвалення.**

**Любоў ЛУНЁВА.**



Ігар на выпускным вечары з маці, сястрой і бацькам.

СІТУАЦЫЯ

# Перамога ў барацьбе за дом?

*Судовыя разбіральніцтвы па справе высялення сям’і Васкабовічаў з дома, які стаіць побач з будаўніцтвам веткі Мінскага метрапалітэна, здаецца, скончыліся.*

Нагадаем, што супрацьстаянне ўладальніка дома па вуліцы 1-я Уманская Аляксея Васкабовіча з гарадскімі ўладамі цягнецца ўжо даўно. Увесь гэты час ён дамагаўся праз суд адпаведнай кампенсацыі за свой прыватны дом, які хацелі знесці быццам бы ў сувязі з будаўніцтвам метро. Тыя варыянты, што прапаноўвалі улады, Васкабовіча не задавальнялі.

— Замест цаглянага дома павышанай камфортнасці плошчай 210 квадратных метраў, з якога хацелі выселіць, нам вызначылі адну пяціпакаёўку (172 кв.м) на тры сям’і, — распавядаў Аляксей Міхайлавіч. — Кухня менш за 10 кв.метраў! І ўвогуле, давалі плошчу меншую, чым была. Як такое можа быць? Ёсць жа закон. Для каго ён напісаны?




Аляксей Васкабовіч барацьбу не спыняў, але, па яго ж словах, спадзяванні на справядлівы разгляд справы былі малыя. І вось суд Маскоўскага раёна Мінска нечакана адмяніў рашэнні Мінгарвыканкама, адміністрацыі раёна, КУП “Дырэкцыя па будаўніцтве метрапалітэна” і даў магчымасць бакам урэгуляваць канфлікт мірным шляхам.

— Зараз лепшым варыянтам для мяне было б тое, каб прадаставілі такі ж дом, — кажа Аляксей Міхайлавіч. — Можна нават крыху меншай плошчай. Калі гэта гарадскія ўлады не задавальняе, няхай кампенсуюць у поўным аб’ёме плошчу — прадаставяць тры кватэры. Згодны я і на прыстойную грашовую кампенсацыю, самі пабудуемся. На працягу тыдня адміністрацыя Маскоўскага раёна павінна даць мне адказ і прапанаваць варыянты...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗВАРОТ

# Вярніце таннае малако!

*Жыхары вёскі Стараград Кармянскага раёна Гомельскай вобласці накіравалі Аляксандру Лукашэнку калектыўны зварот з просьбай “разабрацца з цэнамі” і вярнуць на паліцы “сацыяльныя” хлеб і малако.*

*“У жыхароў вёскі няма выбару. Ёсць толькі малако па 4,8 тысячы і хлеб аднаго наймення амаль па 5 тысяч рублёў за бохан. Дарэчы, асартымент спіртнога ў вясковым магазіне — шырокі. Ёсць танны алкаголь усіх відаў, ёсць і даражэйшы. А што да прадуктаў — выбару няма. Парушаюцца правы спажыўцоў. Людзі просяць прадаўцоў задаволіць іх заяўкі і прывезці цукар нефасаваны, але іх патрабаванні ігнаруюцца, і цукар у продажы толькі фасаваны, які, вядома, даражэйшы”,* — расказаў БелаПАН ініцыятар збору подпісаў Аляксей Паўлоўскі.

Ліст Лукашэнку падпісалі дзесяць чалавек. Як растлумачыў Паўлоўскі, многія вяскоўцы іх падтрымліваюць, але баяцца ставіць свае подпісы пад калектыўным зваротам з-за магчымых праблем з мясцовымі ўладамі.

У сельсавеце паведамілі, што са скаргамі на кошт малака жыхары Стараграда не звярталіся. Паводле даных сельсавета, у гэтай вёсцы пражываюць 272 чалавекі, мясцовыя жыхары трымаюць 45 кароў. Трымаць карову выгадна, сцвярджаюць у сельсавеце: некаторыя стараградцы трымаюць па тры каровы і за 10 дзён атрымліваюць за здадзенае малако 1,5 млн рублёў. Малако ў насельніцтва Рагачоўскі малочны завод прымае па 2 тыс. 550 рублёў за літр. Раней, кажуць у сельсавеце, кароў у Стараградзе было значна больш, але цяпер моладзь трымаць жывёлу не жадае, пажылыя — не могуць, астатнія — злоўжываюць спіртным.

## «Белтрансгаз» — самае стратнае ААТ

*Па выніках мінулага года прадпрыемства атрымала страты ў памеры 151 мільён расійскіх рублёў (каля 38.580 млн беларускіх рублёў). Яны былі выкліканы леташняй дэвальвацыяй беларускага рубля.*

Топ-12 самых стратных акцыянерных таварыстваў адкрытага тыпу за 2011 год склала электроннае выданне “Ежедневник”. У яго патрапілі піўзавод “Аліварыя”, кобрынская птушкафабрыка, “Рэчыцкі тэкстыль”, валожынскі льнокамбінат ды іншыя ААТ.

ПРАЕКТ

## На 5 чэрвеня было прададзена толькі 5% акцый

Продаж акцый Мінскага завода пеністых він у рамках праекта “Народнае ІРО” звяршаецца 15 чэрвеня.

*“Па стане на 5 чэрвеня ў нас прададзена больш як 5% акцый ад заяўленай колькасці. Мяркуецца, што за апошнія дзесяць дзён, якія засталіся да канца правядзення праекта “Народнае ІРО”, мы прададзім больш за 15% акцый — з улікам заявак, якія раней пададзены. У апошнія дні цікавасць да набыцця акцый узрасла ў асноўным у юрыдычных асоб”,* — паведаміла начальнік упраўлення дзяржаўнай уласнасці канцэрна “Белдзяржхарчпрам” **Ала Сакалоўская.**

Акцыі прадаюцца па намінальным кошце 171 тыс. 450 рублёў. Сакалоўская падкрэсліла, што пасля завяршэння ІРО акцыі будуць прадавацца па больш высокай цане юрыдычным асобам.

ШЧЫРА

# Гэтыя словы пранікаюць у душу

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя "Народнай Волі"!

Шчыра дзякую вам за любоў да Радзімы, за вашы намаганні наблізіць лепшую будучыню для нашай Бацькаўшчыны, пабудаваць адкрытае, свабоднае грамадства, заснаванае на праўдзе, справядлівасці і Нацыянальнай ідэі.

Веру, што Беларусь багатая людзьмі разумнымі і поўнымі любові адзін да аднаго, як вучыць нас Бог. Таму лічу, што Дзяржаўным гімнам Рэспублікі Беларусь павінен быць духоўны гімн на верш Наталлі Арсенневай "Магутны Божа". У ім выказаны светлыя, высакародныя памкненні беларусаў. Здаецца, што гэта ў тваёй душы нарадзіліся тыя простыя і ўзвышаныя словы. На жаль, не ўсе словы я дакладна ведаю. Гэты гімн не пачуеш па радыё, не прачытаеш у дзяржаўных газетах.

Ці не дапаможа мне "Народная Воля"? Усе здаровыя сілы нашага грамадства з гэтым гімнам адкінуць усялякія сумненні на шляху да жаданай мэты — Беларусі, якая будзе жыць па Боскіх законах.

...Зараз у турме пакутуе за бел-чырвона-белы, Хрыстовы сцяг наш герой Сяргей Каваленка. Пакутуе за нашу нацыянальную годнасць. Хай добры Бог і людская салідарнасць дадуць яму сілу выжыць, выстаяць у неверагодных выпрабаваннях і далучыцца да ўсіх, хто жыве са словамі гімна "Магутны Божа" на вуснах.

**З павагай —**

**Ларыса Канстанцінаўна ШАБУНЯ, пенсіянерка.**

г.Асіповічы.

## АД РЭДАКЦЫІ

Шаноўная Ларыса Канстанцінаўна, дзякуй за Вашы добрыя словы, за патрыятычны настрой, любоў да Беларусі.

З задавальненнем змяшчаем на старонках газеты (дарэчы, ужо не ў першы раз) тэкст духоўнага гімна "Магутны Божа". Яго напісала выдатная беларуская паэтка з роду рускага генія Міхаіла Лермантава.

*Наталля АРСЕННЕВА*

## *Магутны Божа*

*Магутны Божа! Уладар сусветаў,*
*Вялікіх сонцаў і сэрц малых,*
*Над Беларусяй, ціхай і ветлай,*
*Рассып праменні свае хвалы.*

*Дай спор у працы, штодзённай, шэрай.*
*На лусту хлеба, на родны край.*
*Павагу, сілу і веліч веры*
*У нашу праўду, у прышласць дай.*

*Дай урадлівасць жытнёвым нівам,*
*Учынкам нашым пашлі ўмалот.*
*Зрабі магутнай, зрабі шчаслівай*
*Краіну нашу і наш народ!*

БОЛЬ

# Не ў грошах справа...

Праз "Народную Волю" я звяртаюся да супрацоўнікаў Міністэрства адукацыі Беларусі!

Звяртаюся з такой нагоды. Я вельмі заклапочана тым, што ў нас адбываецца з роднай мовай. Яна знікае. А разам з ёю знікае беларускі народ. Недалёкі той час, калі можа знікнуць і сама краіна.

Наш міністр адукацыі, шаноўны Сяргей Аляксандравіч Маскевіч, разумеючы, да чаго вядзе русіфікацыя школы, стараецца нешта рабіць, каб прытармазіць гэты працэс. Ён лічыць, што выратаванне мовы трэба пачынаць са школы. І як першы крок прапануе перавесці выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі ў школах на беларускую мову. Але, як бачна, не ўсе калегі Сяргея Аляксандравіча з нейкіх сваіх поглядаў і інтарэсаў згодны з гэтай прапановай. Яны сцвярджаюць, што, каб рэалізаваць задумку, патрэбны грошы, а іх не хапае. Несур'ёзна ўсё гэта! Ці ж можна гаварыць пра грошы, калі ў небяспецы народ, краіна? Ці ж могуць быць патрыётамі Беларусі людзі, для якіх родная мова — чужая?

Прабачце, што пішу крыху сумбурна, вельмі хвалююся з-за асабістых праблем і пачуццяў: мой памерлы муж — Міхась Арсеньевіч Лазарук — доктар філалагічных навук, 50 год свайго жыцця аддаў справе народнай асветы, шмат зрабіў для краіны ў галіне філалагічнай адукацыі. Пад яго прозвішчам і пасля смерці выдаюцца падручнікі па беларускай літаратуры. Але каму яны будуць патрэбны, калі не ў пашане родная мова? Калі я, напрыклад, размаўляю па-беларуску, хто-ніхто глядзіць з нездаровай цікаўнасцю: во нацыяналістка, бэнээфаўка, пятая калона... Дык як жа можна не хвалявацца і спакойна жыць у такой краіне?

Мае равеснікі памятаюць, як у 60-я гады мінулага веку галоўны партыйны кіраўнік СССР Мікіта Хрушчоў абяцаў, што праз 20 год мы будзем жыць у камунізме. А калі ён наведаў Беларусь, то заявіў, што мы, беларусы, першымі ўступім у камунізм, таму што "разговариваем по-русски". Гэта гістарычны факт. Мабыць, Хрушчоў так і думаў, што камунізм наступіць тады, калі ўсе будуць размаўляць па-расійску. Такія "мудрыя" бываюць правіцелі! А яшчэ кажуць, што ў Мікіты Сяргеевіча спыталі: "А пры камунізме будуць грошы ці не?" Ён растлумачыў, што пры камунізме ў адных "деньги" будуць, а ў другіх іх не будзе наогул. Па гэтых хрушчоўскіх прыкметах мы ўжо жывём у камунізме. Размаўляем па-расійску, грошай у адных шмат, а ў другіх наогул няма, і ўвесь час нам расказваюць, як у нас усё добра.

А ці не пара даўно перастаць слухаць розных мікітак? Хацелася б, каб наш міністр адукацыі менш прыслухоўваўся да ўсялякіх нядобразычліўцаў, а больш рабіў па адраджэнні беларускай мовы. За гэта гісторыя яму будзе ўдзячна.

**Тамара Канстанцінаўна ЛАЗАРУК, удава доктара філалагічных навук, прафесара, акадэміка Міхася Арсеньевіча Лазарука.**

«НЕПРЫЧАСАНЫ» ЛІСТ

## *Прыехаў бы прэзідэнт у наш мікрараён*

Добрага здароўя ўсім у рэдакцыі газеты "Народная Воля" і яе чытачам!

Аднойчы мы размаўлялі наконт газеты. Мая знаёмая таксама выпісвае "Народную Волю". Яна сказала, што такая газета павінна быць пры прэзідэнце, а не наадварот. Але А.Р.Лукашэнку праўда не патрэбна. А свядомыя жыхары краіны — ворагі. Нават у мясцовых газетах лісты неабыякавых жыхароў не друкуюць. Крытыка цяпер не патрэбна ўладам. Усіх актыўных прылічваюць да апазіцыі.

Сёння даведалася, што ў Наваполацку 25 мая чакаюць Лукашэнку. З гэтай нагоды працуюць без выхадных. Як заўсёды.

Мару і я аб яго прыездзе ў наш Светлагорск, які за мінулы год атрымаў першае месца па добраўпарадкаванні. Але не ў цэнтр, на Плошчу, а ў мікрараён "Маладзёжны", дзе я жыву. Каб пабачыў тратуары. У мяне ёсць здымкі. Зроблены яны паміж дзіцячай раённай паліклінікай і Домам быту, а таксама на шляху да гімназіі. Аб гэтым усе ведаюць. Фотаздымкі насіла дэпутату В.Кавалёвай, старшыні райвыканкама С.Максіменку, ідэолагу С.Мяркулаву, намесніку начальніка аддзела ЖКХ А.Мігаван. Але ўсе яны гавораць, што не хапае фінансаў. А вось на будаўніцтва лядовага палаца грошы знайшлі. Як і на ўсякія паказушныя мерапрыемствы. Як часта і многа ў нас чыноўнікі гавораць пра парадак і як на самай справе мала таго парадку паўсюль, асабліва ў галовах!..

**Валянціна ПАЖЫЛОВА.**

*г.Светлагорск.*

ТАК ДУМАЮ!

# Надо учиться делать уроки

Набирает обороты дискуссия по вопросу создания альтернативы в эмиграции. Политики и политологи ищут логику и смысл, ставя под сомнение полезность такого предприятия. Интересно наблюдать за таким информационным ажиотажем на эту тему. Стратегическое мышление профессионалов не для газетных полос, это должны понимать все охотники за ясностью.

Вацлав Гавел говорил: *"В недемократических условиях слово получает куда большую силу, чем целая армия избирателей или солдат. Но мы никогда не знаем, насколько правдиво слово, которое влияет на реальность".*

Правдивые слова белорусских демократических политиков влияли на умы и души, но своей правдивостью и открытостью они не смогли повлиять на реальность. Из этого должны быть извлечены свои уроки.

**Игорь МИХНОВЕЦ.**

*г.Ивацевичи.*

РОЗДУМ ПРОСТАГА ЧАЛАВЕКА

# Калі мы за чэсныя выбары...

Неяк "Народная Воля" рабіла апытанне людзей наконт відэакамер на выбарчых участках. Поўнасцю пагаджаюся з думкай, выказанай Аляксеем Мархвідам. Разумею і тое, чаму Аляксандр Пашкевіч ухіліста сказаў: "Есть большое подозрение, что основные фальсификации не всегда совершаются путем вброса бюллетеней".

Аб тым, як у нас праводзяцца "выбары", сказана шмат. Але калі раз-пораз людзі наступаюць на адны і тыя ж граблі, то я лічу, што не лішне будзе ім выслухаць споведзь чалавека, які двойчы быў назіральнікам на адным і тым жа выбарчым участку.

У першы раз (у сярэдзіне 90-х гадоў) на выбарчым участку мне ніхто не забараняў падыходзіць да сталоў са спісамі выбаршчыкаў, ніхто не перашкаджаў назіраць, як выдаюцца бюлетэні выбаршчыкам. Тады ніхто не забараняў блізка падыходзіць да камісіі, якая займалася раскладкай і падлікам бюлетэняў. Ніхто не выступаў супраць таго, каб я запісваў лічбы падліку кожным членам камісіі, тым болей што яны называліся ўголас. Болей таго, сам старшыня камісіі... прапанаваў зверыць вынікі падліку (!) Перадаўшы вынікі ў райвыканкам, старшыня сказаў, што пратакол будзе напісаны не раней, чым праз гадзіны дзве-тры. Таму не ведаю, якія канчатковыя лічбы былі занесены ў дакумент.

Праз некаторы час я зноў апынуўся назіральнікам на тым жа ўчастку, але старшыня камісіі быў ужо другі. На гэты раз адносіны да мяне змяніліся. Калі да сталоў выдачы бюлетэняў я яшчэ мог падыходзіць, то пры падліку галасоў, калі ў адну кучу пачалі звальваць бюлетэні папярэдняга галасавання, галасавання на выездзе і асноўнага галасавання і я папярэдзіў, што трэба лічыць галасы паасобку, то мне катэгарычна запярэчылі, каб "не лез не ў сваю справу", а потым вызвалі маёра міліцыі і абвінавацілі ў тым, што я хуліганю і перашкаджаю ім працаваць. Толькі прад'яўленая даведка, што я з'яўляюся назіральнікам, а потым паперчына аб тым, што яшчэ з'яўляюся і засядацелем народнага суда гэтага ж раёна, не дазволілі маёру мяне выправадзіць з выбарчага ўчастка.

На гэты раз дзяўчаты, зрабіўшы падлікі, на шматках паперы пісалі вынікі і ціхенька аддавалі іх старшыні. Таму падсумоўваць і параўноўваць лічбы не было магчымасці.

Калі старшыня камісіі тэлефанаваў "наверх", ён не дазволіў падысці блізка, каб я не чуў вынікаў падліку. Больш таго, заявіў, што я не маю права знаёміцца з пратаколам.

Куды "загналі" цяпер назіральнікаў — думаю, усім вядома, не буду паўтараць.

Спадзяванні тых, хто думае, што відэаназіранне нешта дасць, марныя. Навошта штосьці "хімічыць" падчас галасавання, калі можна зрабіць усё ціхенька і без скандалу крыху пазней.

Некалі Сталін сказаў: не важна, як галасуюць, важна, як падлічваюць. Калі мець на ўвазе нашу Беларусь, то на сённяшні дзень словы Іосіфа Вісарыёнавіча можна перафразіраваць наступным чынам: не мае значэння, колькі прагаласавала, хто і як, важна, каб чыноўнікі выканаўчай улады, якія ажыццяўляюць і кантралююць "вынікі" выбараў, выдалі "на-гара" спушчаныя зверху лічбы.

Я мяркую, што не надта памыляюся ў сваіх разважаннях.

Дык ці можна пазбегнуць фальсіфікацыі? Не, пры цяперашнім выбарчым заканадаўстве гэта немагчыма, бо, калі будуць сфальсіфікаваны лічбы на прамежкавым (ад участка да ЦВК) этапе, ніякія відэакамеры не дапамогуць, а ўстаноўка відэа — марна патрачаныя грошы.

Дык што ж рабіць?

1.Адмяніць прымусова-масавае датэрміновае галасаванне, вынікі якога прадказальныя і іх немагчыма праверыць.

Даць магчымасць (як у другой палове мінулага веку) датэрмінова галасаваць толькі тым, хто ад'язджае за межы свайго выбарчага ўчастка, напрыклад, у камандзіроўку.

Галасаванне "на выездзе" — каб набраць больш галасоў, прыняўшых удзел у гэтым шоу, трэба праводзіць наступным чынам. Кожны, хто прагаласуе дома ці, скажам, у бальніцы, ставіць подпіс пад квітком-распіскай, якая павінна захоўвацца разам з бюлетэнем, але ў асобнай папцы.

2.Увесці ў закон, каб назіральнікі не імітавалі назіранне, седзячы за 10—15 метраў ад сталоў, а каб маглі поўнасцю назіраць за ўсімі працэсамі выбараў. Увесці норму, што без подпісу назіральнікаў на пратаколе (а не на асобнай паперы) аб тым, што парушэнняў не было, што яны згодны з вынікам падліку, пратаколы не прымаліся. І гэтак аж да ЦВК.

3.Неабходна, каб камісіі ад нізу да ЦВК фарміраваліся з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, партый, а не з прадстаўнікоў выканаўчай улады. Старшыню камісіі павінны выбіраць самі члены камісіі.

4.У ЦВК праз кожныя 4—5 гадоў павінна быць 50-працэнтная ратацыя. Даць права сябрам ЦВК самім выбіраць старшыню.

Ратацыя не павінна быць такой, як зараз: калі адных прыслужнікаў улады замяняюць другімі.

Скажаце наіўны я чалавек. Для таго каб змяніць сітуацыю з выбарамі, трэба ў першую чаргу змяніць Канстытуцыю. А што тут страшнага? Калі двойчы перапісвалі, мянялі гаротную пад аднаго, дык чаму не змяніць на карысць народа?

Хаця ці можна назваць народам людзей, якія, нават калі і бурчаць сабе пад нос, то задавальняюцца тым мізэрам, што ім дастаецца? Пры гэтым прыгаворваюць: абы не было вайны... На мой погляд, людзей, якім абыякавы лёс не толькі радзімы, але і лёс сваіх дзяцей, унукаў, трэба называць насельніцтвам, бо народ аб'ядноўвае нейкая ідэя, мова, культура, ён згуртаваны, арганізаваны, здольны на абарону сваіх правоў.

Дык ці патрэбна што-небудзь мяняць, калі большасці, замбіраванай ушчэнт, усё па барабане? Большасці, якае жыве сённяшнім днём, не задумваючыся пра заўтра, тым больш пра аддаленую перспектыву.

Патрэбна! Ды яшчэ як!

Але ці пойдуць на змены тыя, хто, прабачце, дарваўся да карыта? Прапануючы правесці змены, мы фактычна прапануем ім узяць у рукі нават не звычайную пілу, а бензапілу і пілаваць сук, на якім вельмі ўтульна ўладкаваліся многія.

Дык ці патрэбна гэта ім?

**Леанід Канстанцінавіч САЙ, пенсіянер, мінчанін.**

ГОЛОС В ПУСТЫНЕ

# Ждем телевизоры и холодильники

Мы с женой отработали на Витебском заводе "Эвистор" вдвоем 60 лет. У меня с войны нет матери, у жены отец погиб в 1944 году, защищая Беларусь.

Мы начали класть деньги на сберкнижку, когда еще дети были малыми, года с 1977-го.

В 1978 году в возрасте 66 лет погибла мать моей жены, из наследства осталась корова, которую мы сдали государству за 800 рублей. Эти деньги положили на общий счет, в итоге у нас была сумма на черный день в размере 7200 рублей — 9 коров или авто "Волга", "Москвич" и еще корова.

Но сын, придя из армии, вынужден был занимать деньги на кооперативную квартиру, компенсации никакой не было, в деноминированных рублях сумма была эквивалентна стоимости ватного одеяла. Корова тещи составила 1/9 часть ватного одеяла. Я смотрел по телевизору пресс-конференцию А.Лукашенко. Ему тогда задали вопрос: "Как вы будете восполнять вклады?"

— Телевизоры дам, холодильники...

Читая последующие указы президента о компенсации вкладов, я считал, что это нужно для того, чтобы вешать лапшу на уши народа. Так оно и получилось. До сих пор вклады людям не возвращены. А вот ледовых дворцов понастроено! Вот уже за атомную станцию взялись.

Я написал письмо президенту и приложил к нему сберкнижку. Напомнил ему про обещания. Из Администрации мое письмо переадресовали в Минфин. Позже сберкнижка оказалась в Витебске в сбербанке, письмо — в исполкоме. Из исполкома позвонили, когда меня не было дома. Жена сказала, что ей задали вопрос: "Что он хочет?" А что я хочу? При социализме протезирование зубов было бесплатным, сейчас пенсионер должен платить. Слуховой аппарат давали бесплатно (бесплатно меняли раз в четыре года) — сейчас плати. Я хочу, чтобы, как в других странах, людям вернули то, что у них украли. Нам больше 70 лет, и власть ждет, пока мы вымрем, тогда и компенсация не понадобится.

В этом году облисполком оказал мне материальную помощь на покупку слухового аппарата, но это мизер по сравнению с той суммой, которую мы с женой потеряли.

В письме президенту я писал: "Мой отец воевал в Беларуси, был ранен, похоронен в селе Идринское, что в 600 километрах от Красноярска. Могу ли я на свою пенсию съездить на могилу отца?"

Мне требуется для лечения предстательной железы импортное лекарство, болят суставы, также необходимы дорогостоящие препараты, но я их не могу купить... Государство использовало наши вклады, а сейчас цинично отказывается отдать по крохе накопленные средства. Это ли не издевательство над людьми? Обещания Лукашенко оказались пустым звуком.

**Тимофей Иванович МАКАРЕНКО, житель Витебска.**

ПИСЬМО-КСЕРОКОПИЯ

# Грабовка останется без культуры



В редакцию газеты «Народная Воля»
Башлаков Ефим Ефимович
Д.Грабовка, ул. Совхозная 12 1
Гомельская область
Гомельский район

Год назад мы жители **д.Грабовка, Гомельского района, Гомельской области** в количестве 30 человек обратились в администрацию президента и областную прокуратуру по факту разрушения **Дома Культуры в д.Грабовка.** Обследования показала, что забиты ливневые трубы. Всей работы: обрезать трубы и заменить. Это по стоимости мизер. Сейчас разрушена восточная стена, поток льется прямо по стене. Такая же участь ждет и западную стену. Была статья в газете **Советская Белоруссия от 16 июля 2011 года.** Областная прокуратура проверкой не занималась. Администрация президента в лице С.Н.Буко направило письмо тем, кто виновен. Получается «Ворон ворону глаз не клюет». Просим приехать и разобраться во всем. Ведь деньги уходят из бюджета и их видно ни кому не жалко.

**Нет культуры - нет будущего народа!**



## ОТ РЕДАКЦИИ

**Это письмо мы публикуем в ксерокопированном виде, то есть без редактирования. Факт вопиющей бесхозяйственности, наплевательского отношения к тому, что уже построено, очевиден. Это прямой укор местным властям.**

ЗАДУМАЙТЕСЬ!

## *Ничего национального-то в Минске не увидишь*

Как известно, в 2014 году в Минске пройдет чемпионат мира по хоккею. Но в какую страну приедут гости? Они будут удивлены увиденным. Но если спортивные комплексы произведут хорошее впечатление, то многое другое, чувствую, вызовет недоумение. Подумают: Минск — это вовсе не столица Беларуси, а областной центр Российской Федерации. Как же: куда ни глянь — русский язык. Почти все вывески — на нем, на плакатах, растяжках — то же самое. Представителям дальнего зарубежья невдомек будет, что в стране двуязычие. Если бы оно было на самом деле, то русский язык везде чередовался бы с белорусским. Но национального-то не увидишь.

Те, кто приедет на чемпионат мира по хоккею, скажем так, в качестве сувениров будут покупать водку, которую высококачественно делают в Беларуси. Но этикетки на бутылках также даются на русском языке. Вот вам и "зеркало" страны!

Да, многое будет выражаться в языке. Вот почему руководству страны нужно подумать, как исправить ситуацию.

Если же исходить из позиции, что Минск является областным центром Российской Федерации, то тогда можно оставлять все так, как оно есть в настоящее время.

**Александр ПЕТРУННИКОВ, белорус.**

*Мурманская область, г.Мончегорск.*

## *Большасць студэнтаў будзе вучыцца 4—4,5 года*

***Ці праўда, што ВНУ пераходзяць на 4 гады навучання?***

***Г.Жукава, Мінск.***

Сапраўды, міністр адукацыі Сяргей Маскевіч падпісаў загад, які змяшчае пералік спецыяльнасцяў з тэрмінам атрымання адукацыі менш за пяць гадоў. Чатыры гады будуць вучыцца філосафы і тэолагі, псіхолагі, журналісты і прававеды, эканамісты, эколагі, мытнікі, спецыялісты па камп'ютарнай бяспецы, літаратурныя рэдактары, сацыёлагі і палітолагі.

Плануецца, што ад чатырох да чатырох з паловай гадоў будуць вучыцца некаторыя спецыялісты аграпрамысловага комплексу, у сферы нанатэхналогіі і іншыя.

Некаторыя спецыяльнасці "падзеляць". Так, на "матэматыцы" і "хіміі" тэрмін падрыхтоўкі складзе 4 гады, а на "фундаментальнай матэматыцы" і "фундаментальнай хіміі" — 6 гадоў. Спецыяльнасць "фізіка" прапануецца падзяліць на тры: "фізіка" (4 года), "фундаментальная фізіка" (6 гадоў) і "ядзерныя фізіка і тэхналогіі" (6 гадоў). Плануецца, што большасць спецыяльнасцяў будуць перакладзены на скарочаныя тэрміны навучання ў 2013/2014 навучальным годзе.

SOS!

# Уменье пить — искусство...

*Ни для кого не секрет: число пьющих в нашей стране, к сожалению, растет из года в год. Но лично у меня особое беспокойство вызывает то, что больше становится пьющей молодежи и даже несовершеннолетних. Это уже страшно...*

Честно скажу, я занимал в этом вопросе позицию нейтралитета, пока эта беда очень больно не клюнула меня в самое сердце! К сожалению, самые родные и близкие мне люди стали на тропу "зеленого змия"... И за свою долгую жизнь мне пришлось проводить в последний путь многих хороших людей, которые злоупотребляли алкоголем. Это порочное пристрастие губит десятки тысяч судеб! За каждой рюмкой — чья-то жизнь...

Пишу эти строки, потому что душа болит, когда это проклятое зло вижу каждый день, а в одиночку помочь не могу...

Особенно мне непонятно отношение к этой проблеме и церкви, и костела. Считаю, что борьба с этим грехом — их первостепенная обязанность, особенно сейчас, когда нация фактически спивается! Государство, общество и церковь должны решать эту проблему сообща и сегодня, чтобы не было поздно завтра! Ведь эта проблема уже стала раковой опухолью. Конечно, я не хочу, чтобы меня восприняли как "сухаря", эдакого борца за введение сухого закона. Я и сейчас, в своем преклонном возрасте, могу выпить боевую "сотку" с хорошими друзьями в праздник. Однако я за то, чтобы у нас на должном уровне была пропаганда культурного пития. Хочу напомнить слова Р.Гамзатова: *"Уменье пить — искусство, тот не умен, кто пьет вино без мысли и без чувства..."*



**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран спорта, заслуженный тренер БССР.**

